19 гадоў таму выйшаў першы нумар «Народнай Волі». Будзем разам!

№ 53 (3896)

11 ліпеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



**АКТУАЛИИ**



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Кому в Беларуси жить хорошо?

**Вальяжно раскинувшись на вагонной полке, дядька-отставник хвастался своей жизнью. Абсолютно всего ему хватает, всем доволен. Когда уходил на пенсию, выдали хорошее жилищное пособие. На него купил в Минске две квартиры. В одной живет, другую сдает. Плюс пенсия — полторы тысячи долларов. Сам еще бодрячок, может подрабатывать. Но незачем, да и на старости лет человек уже заслужил того, чтобы жить в свое удовольствие…**

**Кто бы спорил, что, отработав всю жизнь, на старости человек должен думать не о хлебе насущном, а о том, какую страну выбрать для оздоровления и отдыха! Вот только белорусам о такой старости остается лишь мечтать. Разговорчивый пенсионер оказался российским военным отставником. Высокого ранга.**

**Дядечка рассказал много интересного.**

**Например, он и мечтать не мог, что белорусское государство будет дотировать ему квартплату. Ему — не заплатившему ни копейки налогов в белорусский бюджет!**

**Нас с вами постоянно попрекают тем, что оплачиваем только 20—25% реальной стоимости коммунальных услуг. Нам с вами говорят, что мы должны быть безмерно благодарны собственной власти за такую доброту… Мы в ответ пытаемся напомнить, что родились и выросли в этой стране, что на нее работали, ей платили налоги. Что именно нас наше государство не раз обирало инфляцией и обесцениванием вкладов. Значит, мы имеем право претендовать на скидки, льготы, поблажки и можем даже поспорить с государством, кто кому должен. Однако люди, не заплатившие в белорусский бюджет ни копейки, те, кто жил и работал в другой стране, другой стране отдавал свои силы, идеи, деньги, — это совсем другая история. Почему они имеют такие же права, как и мы, почему они не оплачивают 100% услуг ЖКХ, за газ, за свет, за воду? Почему мы из своего кармана должны спонсировать тех, кто не вырастил на нашей земле ни детей, ни деревьев?..**

**И если бы только квартплатой все ограничивалось!**

**Стон по стране идет. Белорусы уже устали от того, что оказываются постоянно что-то должны этому государству, а государство изощряется в изобретении все новых способов и поводов с нас дополнительные деньги содрать. Отдельные умы додумались до того, что надо брать плату за посещение поликлиник, потому что слишком дорого их содержать. Но вот сидит российский хитрован-отставник, выбравший нашу страну для спокойной пенсионерской жизни, и о счастье своем рассказывает. Никаких, оказывается, у него нет проблем с посещением поликлиники, никаких нет проблем с лечением в больнице. Да, на поддержание белорусской системы здравоохранения он ни копейки никогда не вносил, но является таким же пациентом, как и мы, белорусы. Ни за что платить ему не надо. Потребовался гемодиализ — дорогостоящая процедура — все сделали абсолютно бесплатно. А вот в России даже для россиян такого давно нет, там медицина страховая… Дядечка просто счастлив!**

**Я понимаю, если ребенку потребовалось лечение. Я понимаю, если какой-то экстренный случай и человеку нужна скорая медицинская помощь. Но почему наши врачи должны бесплатно обслуживать граждан другого государства, приехавших к нам на старости лет со всеми своими болячками? В какой стране нас так будут обслуживать? Куда нам уезжать?.. Почему в Беларуси хорошо кому угодно, только не самим белорусам?..**

**После хоккейного чемпионата Минск полнится историями о том, как российским гостям понравился наш город. Настолько понравился, что решили не только сувениры, но и квартирки прикупить.**

**Поинтересуйтесь у риэлтеров: кто покупает квартиры в дорогих новостройках и коттеджных поселках? Говорят: в основном россияне. Для них это недорого.**

**Поедешь на Нарочь — только и рассказов, как поднялись цены, как россияне скупают дома в деревнях… И, конечно, работать в белорусском колхозе или на заводе они не собираются.**

**Кто-то возразит, что между Беларусью и Россией все баш на баш. Мол, теоретически, белорус, выйдя на пенсию, тоже может уехать жить в Москву, значит, все правильно и справедливо.**

**Только вот что он будет делать там с нашей пенсией в 250 долларов? Разве что на паперти стоять.**

**Да и россиян 144 миллиона, а нас — 9,5. Они белорусскую эмиграцию даже не замечают, а мы превращаемся в страну для престарелых россиян, и не замечать этого уже просто невозможно. Им с российской пенсией в Беларуси жить хорошо. А нам?..**

# Пяць дзён у Віцебску будзе гуляць «Славянскі базар»




*Учора на гала-канцэрце адкрыцця Міжнароднага фестывалю мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” расійская спявачка **Надзея Бабкіна** атрымала адмысловую ўзнагароду ад А.Лукашэнкі — “Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення”. Лаўрэатаў гэтай спецыяльнай прэміі ўвекавечваюць на Алеі зорак.*

**ЗА КУЛІСАМІ**

*На канцэрце **Надзеі Кадышавай** ў Летнім амфітэатры засталіся незапоўненымі некалькі сектараў. А вось выступленне “Хору Турэцкага” прайшло з аншлагам.*

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

*Мікалай АЎТУХОВІЧ:*

## «Гэта здзек з людзей»

*Былы палітвязень Мікалай Аўтуховіч распавёў “Народнай Волі”, з якімі прыгодамі ён патрапіў у мінскі шпіталь.*

Нагадаем, што былы палітычны зняволены Мікалай Аўтуховіч 8 красавіка выйшаў з турмы, дзе адседзеў 5 гадоў і 2 месяцы. Аднак за ім быў устаноўлены прэвентыўны нагляд, паводле правіл якога яму забаронена пакідаць Ваўкавыск без дазволу міліцыі.

Раней Аўтуховіч некалькі разоў падаваў заяву на дазвол выехаць на медыцынскае абследаванне ў беларускую сталіцу, але атрымліваў адмову. І вось — адпусцілі...



*“На гэтым тыдні я ўсё ж такі патрапіў у ваенны шпіталь, але з вялікімі прыгодамі,* — распавёў Мікалай. — *Ваўкавыская міліцыя патрабавала даведку з дзяржаўнай медыцынскай установы, што мне не могуць аказаць у Ваўкавыску і Гродне, такую медапамогу, якую акажуць у Мінску. Глупства нейкае! Такая норма прапісана ў Канстытуцыі? Я павінен прывезці заяву і накіраванне ад урача, што і зрабіў. Чаму міліцыянеры павінны вырашаць, дзе мне лепш лячыцца — у Ваўкавыску ці ў сталіцы? Я што — за мяжу з’язджаю? Ці ў нас міліцыянеры — дактары? Дарэчы, я прывёз неабходную ім даведку ад майго ўрача з прыватнай клінікі Гродна. Ізноў не тое — ад дзяржаўных медыкаў патрэбна”.*

Паводле слоў Аўтуховіча, ён папярэдзіў міліцыянераў, што ў любым выпадку паедзе на лячэнне ў Мінск — нават калі не атрымае дазволу. Але ў апошні момант “лёд зрушыўся”.

*“Я напісаў заяву, каб мяне адпусцілі ў Мінск не на лячэнне, а на часовае пражыванне,* — кажа суразмоўца. — *І вось у такой інтэрпрэтацыі, як аказалася, да мяне ніякіх пытанняў няма. Гэта здзек нейкі з людзей! Тры месяцы я не мог з’ехаць на лячэнне. Зараз у шпіталі паздаваў усе аналізы, буду чакаць адказу. Але ўжо вядома, што ў страўніку знайшлі тры язвы. Буду лячыцца. Як мінімум 10 дзён трэба на абследаванні”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ПАЗІЦЫЯ**

## Вярніце беларускую мову ў заканадаўчыя акты!

Сакратарыят ГА “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” напрыканцы чэрвеня звярнуўся ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі з прапановай аб вяртанні беларускай мовы ў нацыянальнае заканадаўства.

Цяпер амаль усе законы ў нашай краіне прымаюцца толькі на рускай мове, і не існуе афіцыйнага перакладу іх на дзяржаўную беларускую мову, што з’яўляецца парушэннем дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, — канстатуецца ў Звароце.

ТБМ прапануе з 1 верасня 2014 г. усе законы і іншыя нарматыўныя прававыя акты Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь адразу прымаць на дзвюх дзяржаўных мовах, а таксама зрабіць афіцыйны пераклад дзеючых законаў, якія былі прыняты толькі на рускай мове, на дзяржаўную беларускую мову і апублікаваць іх у прадугледжаным законам парадку.

**БЛІЦ**

*Стала вядома пра абнаўленне Еўрасаюзам санкцыйнага спісу у дачыненні да шэрагу чыноўнікаў Беларусі. З яго выключаны восем асоб і адзін чалавек — уключаны. Папоўніў спіс суддзя Шклоўскага раённага суда **Віталь Волкаў**, які прыняў у студзені 2012 года рашэнне аб пераводзе экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі **Мікалая Статкевіча** ў турму закрытага тыпу ў Магілёве.*

*Такім чынам, зараз у спісе асоб, якім забаронены ўезд на тэрыторыю ЕС і чые фінансавыя сродкі ў ЕС павінны быць замарожаны, — 225 прозвішчаў. Санкцыі таксама дзейнічаюць і ў дачыненні да 25 беларускіх прадпрыемстваў.*

## Ці дае плён «чорны спіс» на практыцы?

**Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ, член палітсавета Аб’яднанай грамадзянскай партыі:**

— Санкцыі, асабіста персанальныя, уплываюць на паводзіны людзей. Хоць я не сказаў бы, што эфектыўнасць ад санкцый высокая, але іх адсутнасць была б своеасаблівай індульгенцыяй рэжыму. Пакуль у Еўрасаюза і ЗША вельмі мала рычагоў для ўплыву на сітуацыю ў Беларусі. За перамены і рэформы адказваюць перш за ўсё самі беларускія грамадзяне.

**Сяргей СКРАБЕЦ, былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў 2-га склікання:**

— Я лічу, што санкцыі ні на што асабліва не ўплываюць. У “чорны спіс” уключылі суддзю, які пасадзіў Статкевіча ў “крытку”. У выніку суддзя як працаваў, так і працуе, а Статкевіч так і сядзіць там дагэтуль. Ну выкраслілі шэсць чалавек. Дырэктара гімназіі Бушную, напрыклад. А гімназія ж добрая насамрэч. І яна прафесіянал добры. А тое, што ёй прапанавалі ў выбарчую камісію пайсці, дык што — яна магла адмовіцца? Ну немагчыма ж зараз унесці ў спіс дзясяткі, сотні, тысячы медыкаў, настаўнікаў. Ад іх нічога не залежыць. Кропкавыя санкцыі ў адносінах да бізнесменаў, якія з’яўляюцца “кашалькамі” ўлады, — гэта мае сэнс.

**Юрась БЕЛЕНЬКІ, намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ:**

— “Чорны спіс” — гэта чорная метка. Хутчэй за ўсё гэта псіхалагічны ўціск. Санкцыі патрэбны, бо гэта знак і нашаму грамадству, што пра народ ніхто не забыўся і ёсць краіны, якім мы неабыякавыя.

**Аляксандр ЯРАШУК, лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:**

— Досвед свабодных прафсаюзаў сведчыць, што санкцыі здольныя ўплываць на сітуацыю ў нашай краіне. У кожным канкрэтным выпадку трэба прымаць рашэнне і мець на ўвазе, што адмаўляцца ад такога сур’ёзнага інструмента ўздзеяння нельга. Мы сёння праводзім семінар, на якім прысутнічаюць і міністр працы, і прадстаўнікі Генеральнай пракуратуры, і МЗС. Пасля таго, як Беларусь пазбавілі гандлёвых прэферэнцый на тэрыторыі Еўрапейскага Саюза, стаўленне чыноўнікаў да многіх рэчаў змянілася. Гэта не панацэя, але санкцыі ў многіх выпадках спрацоўваюць. Калі паставіць сябе на месца таго ці іншага чыноўніка, прозвішча якога занеслі ў “чорны” спіс, то можна сабе ўявіць, наколькі гэта насамрэч балюча і непрыемна.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ПАД ГРАДУСАМ**

## Дажджы

*Выхадныя будуць мокрыя.*

— Сёння, у пятніцу, умовы надвор’я на тэрыторыі Беларусі будуць вызначаць актыўныя атмасферныя франты, — *распавядае пра надвор’е на бліжэйшыя дні сіноптык **Дзмітрый Рабаў**.*

Днём у суботу на значнай частцы ўзмацненне ветру парывамі да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ў суботу ноччу +14...+19°С, днём +23...+28°С, па паўднёвым усходзе да +30°С. У нядзелю ноччу +14...+19°С, днём +23...+28°С, месцамі будзе менш воблачнасці, да +30°С. На большай частцы краіны кароткачасовыя дажджы, навальніцы.

**ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ**

## Надзея Ермакова будуе дом

*Пра гэта старшыня Нацбанка распавяла падчас “Прамой лініі”.*

Свае грошы **Надзея Ермакова** захоўвае на рублёвым дэпазіце.

*“У мяне невялікая стаўка, недзе 27%, калі не памыляюся. У мяне ўклад “Пенсіённы”, з якога грошы можна здымаць штодзень,* — цытуе euroradio.fm старшыню Нацбанка. — *Я цяпер без жылля — будуюся, таму іншым разам трэба разлічвацца з будаўнікамі. Я сціплы чалавек, таму і на дэпазіце ў мяне невялікая стаўка, каб мяне як старшыню Нацбанка не папракнулі, што я праводжу палітыку высокіх ставак”.*

**ПЕРСОНА**

## Владимир Коноплев собирается в Рио-де-Жанейро



*Вчера Белорусская федерация гандбола вновь избрала своим руководителем бывшего председателя Палаты представителей **Владимира Коноплева**.*

*“Выступая на конференции, Коноплев заявил, что главной задачей на новый период является участие мужской сборной Беларуси по гандболу в Олимпийских играх в Рио-де-Жанейро в 2016 году”,* — сообщает interfax.by.

Напомним, недавно В.Коноплев предстал перед Верховным судом Беларуси в качестве обвиняемого по делу бывшего заместителя генерального прокурора Александра Архипова. Коноплеву назначено наказание в виде штрафа в 135 миллионов рублей.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Обещанными «рекордами» Мясниковича белорус сыт не будет

Нацбанк продолжает прогибаться под давлением правительства. Он постоянно снижает свои процентные ставки по операциям поддержки текущей ликвидности коммерческих банков. С начала года они снизились в среднем с 35% до 26%. Значит, кредиты главного банка становятся более дешевыми и доступными, а денег в экономике становится все больше. В результате по инфляции за полгода, считай, уже выполнено годовое задание (11%).

При годовом прогнозе увеличения требований банков к экономике на 16—19% только за 5 месяцев рост ее кредитования достиг уже 10%. Вдохновленный таким "размягчением" монетарной политики главного регулятора премьер-министр **Михаил Мясникович** пообещал в текущем году установить рекорд по ВВП, который, с его слов, будет никак не меньше максимально достигнутых ранее 72 млрд долларов по рыночному обменному курсу доллара. А с учетом паритета покупательной способности (ППС учитывает покупательную способность доллара в разных странах) ВВП будет более 150 млрд долларов.

Кстати, по размеру подушевого ВВП, рассчитанного по ППС, Беларусь занимает 45-е место в мире (13.427 долларов). А вот по качеству жизни — лишь 58-е. Кроме подушевого ВВП в это понятие входят: питание, здравоохранение, образование, экология, гражданские права, личная свобода и т.д. Поляки опережают нас по этому критерию в два раза! Впрочем, не надо сильно расстраиваться: Россия находится среди 138 оцениваемых стран на 80-й строчке рейтинга, хотя ВВП на душу населения у нее 15.177 долларов.

Похоже на то, что финансовую нестабильность, которая гарантирована в такой ситуации, в расчет никто не берет. Как и то, что рост ВВП, который, как видим, остается директивным показателем, вовсе не означает рост уровня и качества жизни белорусов.

Вспомним валютный кризис 2011 года, когда рост ВВП составил более 5% при двукратной инфляции и трехкратной девальвации белорусского рубля. Главное — экономическая пропаганда в виде каких-то рекордов по ВВП, по зарплате, в которые впишут "наши славные имена". Но премьер почему-то забывает о засчитываемых в ВВП рекордных запасах готовой продукции на складах предприятий, которые достигли на 1 июня 36,2 трлн рублей и выросли с начала года почти на треть.

Очередное "размягчение" денежно-кредитной политики Нацбанка привело к тому, что Беларусь "проела" в июне почти 1 млрд из выданных 2 млрд долларов кредита российского банка ВТБ! Еще в декабре этот банк выделил кредитный транш в размере 440 млн долларов. Эти кредиты выданы на короткий срок под высокие проценты. Срочность кредитования связана с тем, что обещанный Путиным межправительственный кредит в размере 2 млрд долларов должен пройти в Госдуме законодательные процедуры и будет выделен в конце лета или осенью. И, естественно, пойдет на погашение заимствований у ВТБ. Что же дальше? А дальше остается еще получить последний, 6-й, транш кредита Антикризисного фонда и вновь занимать. Или идти на ускоренную девальвацию, чтобы установить равновесный обменный курс белорусского рубля и не тратить валютные резервы на его поддержание или масштабно продавать промышленные активы российскому капиталу.

Понимая, что жизнь в долг — это финансовая пирамида, которая в конце концов развалится, Министерство финансов заложило в план будущего года относительно скромную сумму заимствований — 1 млрд долларов. Потому что в текущем году надо вернуть по кредитам 3,2 млрд долларов и 3 млрд в 2015 году.

Более скромными стали и планы чиновников по росту зарплаты. Средняя зарплата по итогам нынешнего года должна составить 623 доллара в эквиваленте, а в 2015 году увеличиться лишь до 659 долларов, или на 5,6%. Напомним, что в 2013 году при росте производительности труда на 2,2% реальная зарплата увеличилась на 15,8%. Впрочем, как показывает опыт, с перевыполнением планов по зарплате у правительства никогда не ржавело. Однако обещанная Лукашенко на Всебелорусском собрании в 2008 году 1000-долларовая зарплата к концу 2015 года явно недостижима. Белорусские экономические ведомства исходят из того, что темпы роста у основного экономического партнера России останутся невысокими: прогноз роста ВВП на текущий год — 0,5%. Экономика России погрязла в российско-украинской войне, тратит миллиарды на инфраструктуру Крыма и сталкивается с возрастающим бегством западного капитала. Ей грозит третья волна экономических санкций Запада. Поэтому белорусские ориентиры по росту своего ВВП в следующем году достаточно скромные — 2,6%.

Из 2,6% прироста ВВП 0,7% должен дать экспорт. В целом объем белорусского экспорта за январь—апрель по сравнению с таким же периодом прошлого года уменьшился. Экспорт товаров и услуг составил 96,8% прошлогоднего, импорт — 92,8%. Неслучайно население с начала года скупило на чистой основе 239 млн долларов. Структура экспорта стала еще более однобокой. Если в 2013 году доля минеральных продуктов, в основе которых нефть, нефтепродукты, удобрения, составляла 34,1%, то в I квартале этого года она достигла уже 40,2%. Стоимостный объем экспорта транспортных средств, машин и оборудования в Россию в I квартале снизился соответственно на 24,2% и 4,2%. А вот доля белорусских нефтепродуктов на украинском рынке достигла почти 50%. Поэтому Лукашенко и Назарбаев правильно поступили, что не пошли на поводу у России в вопросе построения заградительных пошлин на ввоз украинских товаров. У Кремля ясно видно одно стремление: не защитить Таможенный союз от украинских и европейских товаров, а наказать Киев за подписание экономической части Соглашения об ассоциации с Европейским Союзом. Экономически задушить "киевскую хунту" и "бандеровскую" Украину любой ценой. Чтоб другим неповадно было.

На фоне российско-украинского кризиса экономики и России, и Украины уже начали переживать экономические шоки. Рикошет от этих событий, без сомнения, ударит и по экономике Беларуси, которая и так постоянно балансирует на грани срыва своей финансовой устойчивости. И все предвыборные планы властей легко могут быть сорваны.

ЧУЛІ?

## У Мінск прывязуць абраз з часцінкай мошчаў прападобнага Сергія Раданежскага

Праваслаўныя вернікі Беларусі змогуць пакланіцца шанаванай іконе з часцінкай мошчаў прападобнага Сергія Раданежскага, якая будзе прывезена 20 ліпеня ў мінскі Свята-Духаў кафедральны сабор з Троіца-Сергіевай лаўры.

Так, вечарам ***20 ліпеня*** абраз сустрэнуць на плошчы ля кафедральнага сабора. Доступ жадаючых пакланіцца іконе ***21—24 ліпеня*** будзе адкрыты з 8.00 да 21.00. ***25 ліпеня*** святыня будзе даступная да 14.30, пасля чаго яна адправіцца з Мінска.

Акрамя таго, ***13 ліпеня*** ў Васкрасенскі кафедральны сабор Барысава прыбудзе дакладны спіс абраза Божай Маці "Усецарыца", якая захоўваецца ў Афонскім манастыры Ватопед (Грэцыя). Паломнікі змогуць пакланіцца святыні ***да 26 ліпеня.***

## 45 мільёнаў для пілота

*Авіякампанія "Белавія" запрашае на працу прафесійных лётчыкаў.*

Так, камандзіру экіпажа абяцана зарплата ў 45 мільёнаў беларускіх рублёў, другому пілоту крыху меней — 40 мільёнаў. З абавязковых патрабаванняў для прэтэндэнтаў на пасаду — веданне англійскай мовы, допуск да палётаў і вопыт палётаў на паветранай прасторы Еўропы.

**Аліна ВЕТРАВА.**

МАРШРУТЫ

## У Ізраіль — без візы

Праект беларуска-ізраільскай дамовы аб бязвізавых паездках ужо ўзгоднены ў МУС Ізраіля і перададзены ў МЗС гэтай краіны. Ён павінен яшчэ прайсці адпаведныя працэдуры ў парламенце. *"Я спадзяюся, што гэта справа двух месяцаў",* — сказала намесніца міністра ўнутраных спраў Ізраіля **Фаіна Кіршэнбаўм.**

ТЫМ ЧАСАМ

## Не спяшайцеся набываць білеты!

Міністэрства замежных спраў Беларусі рэкамендуе нашым грамадзянам пакуль устрымацца ад наведвання Ізраіля ў сувязі з масіраванымі ракетнымі абстрэламі яго тэрыторыі.

*"Мы занепакоены эскалацыяй канфлікту на поўдні Ізраіля і вакол сектара Газа",* — заявіў прэс-сакратар МЗС **Дзмітрый Міронччык**.

Найбольш сур'ёзную пагрозу для бяспекі грамадзян Рэспублікі Беларусь, паводле яго слоў, уяўляюць паўднёвыя гарады (Сдэрот, Ашкелон, Ашдод, Беэр-Шэва, Кір'ят-Гат, Нецівот, Афакім) і цэнтральныя раёны Ізраіля.

ЗА ПАРТАЙ

## Колькі каштуе вышэйшая адукацыя?

*Шэраг беларускіх ВНУ апублікаваў кошты на платнае навучанне ў 2014/2015 навучальным годзе, якія ў большасці выпадкаў аказаліся вышэй за леташнія.*



**У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце** навучанне на першым курсе ў новым навучальным годзе каштуе каля 17 млн рублёў на дзённым аддзяленні (у 2013/2014 навучальным годзе — каля 14 млн рублёў), 5,5 млн рублёў — на завочным (4,75 млн рублёў).

Як піша БелаПАН, за навучанне на дзённым аддзяленні **ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце** першакурснікі заплацяць ад 16 да 18,4 млн рублёў у год (у мінулым навучальным годзе — ад 13,3 да 15,4 млн рублёў), на завочным — ад 6,85 да 7,6 млн рублёў (у мінулым годзе — ад 5,7 да 6,3 млн рублёў).

**У Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі** навучанне першакурснікаў на дзённым аддзяленні каштуе ад 16,7 да 20,7 млн рублёў (у мінулым годзе — ад 14,6 да 16,9 млн рублёў), на завочным — 6,8 млн рублёў (5,4 млн рублёў).

**У Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце** год навучання на дзённым аддзяленні каштуе ад 18 да 23 млн рублёў (ад 15 да 19 млн рублёў — у мінулым годзе).

**У Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце** за навучанне на дзённым аддзяленні першакурснікам прыйдзецца заплаціць каля 16 млн рублёў у год (у мінулым годзе — 14 млн рублёў), на завочным — 5,4 млн рублёў (4,5 млн рублёў).

**У Акадэміі кіравання пры прэзідэнце Беларусі** навучанне на дзённым аддзяленні будзе каштаваць 18,4 млн рублёў (у мінулым годзе — 15,3 млн рублёў) і 7,2 млн рублёў — на завочным (на ўзроўні мінулага года).

***Прыватныя ВНУ таксама павысілі кошты на навучанне***. Так, на дзённым аддзяленні **Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва** навучанне будзе каштаваць першакурснікам 13,2 млн рублёў у год (у мінулым годзе — 10 млн рублёў), на завочным — 5,6 млн рублёў (4,3 млн рублёў); **БІП — Інстытут правазнаўства:** дзённае аддзяленне — ад 14 да 18,5 млн рублёў (ад 10,8 да 14,3 млн рублёў), завочнае — ад 6,7 да 7,6 млн рублёў (5,2—5,8 млн рублёў).

У 2013/2014 навучальным годзе кошт навучання на платных аддзяленнях павышаўся адзін раз перад пачаткам навучальнага года, але не больш як на 20%. У 2012/2013 навучальным годзе кошт навучання не змяняўся зусім, аднак у 2011/2012 навучальным годзе навучанне ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установах павышалася чатыры разы.

ТЕНДЕНЦИИ

*В июне 2014 года независимыми социологами проведен национальный опрос общественного мнения (методом face-to-face interview опрошено 1519 респондентов 18 лет и старше, предельная ошибка репрезентативности не превышает 0,03). Предлагаем вам комментарии к наиболее интересным и важным результатам*

# Символы белорусов

Прошедший недавно в Минске чемпионат мира по хоккею стал, помимо всего прочего, демонстрацией единства белорусов .

**"На чемпионате мира по хоккею на льду, который недавно прошел в Минске, участвовала и команда Беларуси. Испытываете ли Вы гордость за свою страну и команду?"**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Очень горжусь | 32.1 |
| Пожалуй, горжусь | 38.9 |
| Не испытываю в связи с этим гордости | 26.2 |
| ЗО/НО | 2.8 |

В дни чемпионата в столице проходили массовые гуляния и празднования, многие из участников которых добровольно использовали для выражения своих чувств официальные красно-зеленые флаги. Куда реже встречались бело-красно-белые флаги. Впрочем, стоит отметить, что использование таких флагов в Беларуси не поощряется и подчас преследуется. Однако, как показывают опросы НИСЭПИ, приверженцы этих символов составляют меньшинство белорусского общества (табл.2).

**"По вашему мнению, какие государственные символы (герб, флаг) больше соответствуют историческому и культурному наследию белорусской нации — те, которые существовали с 1991 по 1995 год (с гербом "Погоня") или нынешние (напоминающие символы БССР)?", %**

| Вариант ответа | 12'09 | 06'13 | 06'14 |
|---|---|---|---|
| Такие символы, как до 1995 года (с гербом "Погоня") | 27.7 | 33.9 | 31.7 |
| Такие символы, как сейчас (напоминающие символы БССР) | 54.7 | 51.5 | 54.9 |
| ЗО/НО | 17.6 | 14.6 | 13.4 |

Данные следующей таблицы дают представление о том, каким символам отдают предпочтение различные группы белорусского общества.

**Связь предпочитаемой национальной символики с социально-демографическими характеристиками и политическими предпочтениями* %**

| Вариант ответа | "По вашему мнению, какие государственные символы (герб, флаг) больше соответствуют историческому и культурному наследию белорусской нации — которые существовали с 1991 по 1995 год (с гербом "Погоня") или нынешние (напоминающие символы БССР)?" | | |
|---|---|---|---|
| | Такие символы, как до 1995 года | Такие символы, как сейчас | ЗО/НО |
| *Возраст* | | | |
| 18—29 | 37.6 | 45.3 | 17.1 |
| 30—59 | 34.5 | 51.4 | 14.1 |
| 60 и более | 19.0 | 72.7 | 8.2 |
| *Пользование интернетом* | | | |
| Да, ежедневно | 43.4 | 42.8 | 13.8 |
| Да, несколько раз в неделю | 36.8 | 47.1 | 16.1 |
| Да, несколько раз в месяц | 33.3 | 55.6 | 11.1 |
| Да, несколько раз в году | 27.3 | 72.7 | 0 |
| Нет | 17.6 | 68.9 | 13.4 |
| Не знаю, что это такое | 33.3 | 66.7 | 0 |
| *Доверие президенту* | | | |
| Доверяю | 19.2 | 71.6 | 9.2 |
| Не доверяю | 49.9 | 34.7 | 15.7 |
| *Доверие оппозиции* | | | |
| Доверяю | 49.3 | 38.1 | 12.6 |
| Не доверяю | 24.5 | 64.8 | 10.7 |
| *Геополитический выбор* | | | |
| За объединение с РФ | 21.1 | 70.8 | 8.1 |
| За присоединение к ЕС | 53.3 | 30.6 | 16.1 |
| *Как вы оцениваете присоединение Крыма к России?* | | | |
| Это империалистический захват, оккупация | 58.4 | 30.8 | 10.8 |
| Это возвращение России русских земель, восстановление исторической справедливости | 22.0 | 65.6 | 12.4 |
| *Если бы Россия присоединила к себе всю Беларусь или ее часть, как бы вы действовали?* | | | |
| Сопротивлялся бы с оружием в руках | 60.2 | 34.7 | 5.1 |
| Стремился бы приспособиться к новой ситуации | 30.2 | 56.0 | 13.8 |
| Приветствовал бы эти изменения | 18.3 | 71.3 | 10.4 |

** Таблица читается по горизонтали.*

Перевес сторонников нынешней официальной символики наблюдается во всех возрастных группах, хотя их доля уменьшается при переходе от старших групп к младшим. Похожая связь и с частотой использования интернета, среди ежедневных пользователей имеет место примерный паритет оценок, по мере снижения частоты пользования интернетом снижается и доля сторонников бело-красно-белого флага и "Погони".

Политические предпочтения влияют на выбор более явственно. Однако тут наблюдается определенная закономерность. Среди сторонников президента, противников оппозиции, приверженцев интеграции с Россией доля тех, кто делает выбор в пользу красно-зеленого флага, чрезвычайно высока. В то же время среди их оппонентов выбор в пользу бело-красно-белого флага делает примерно лишь каждый второй.

И наконец, весьма впечатляет связь между выбором флага и готовностью сопротивляться гипотетической российской аннексии Беларуси. Насколько вероятно такое развитие событий, насколько намерения респондентов будут соответствовать их реальному поведению, сказать трудно. Но с известной долей условности можно сказать, что флагом этого сопротивления будет все же в большей степени бело-красно-белый.

И в заключение — еще об одном символе. Накануне празднования Дня Победы в этом году белорусские власти издали мягкий запрет на официальное использование во время празднования георгиевских ленточек. После аннексии Крыма и волнений в Донбассе этот символ у многих ассоциируется с российской экспансией и визитами "вежливых людей". Особых протестов против запрета не наблюдалось, массового ношения этих ленточек как фронды — тоже. Однако при этом, как показывают данные опроса, большинство белорусов связывают эти цвета с Победой, одержанной 69 лет назад, а не с теперешней российской политикой в Украине.

**"В последнее время в России и Беларуси стало популярным ношение георгиевских ленточек. Что для вас означает эта ленточка?"**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Память о Победе в Великой Отечественной войне, цвета наград той войны | 68.5 |
| Символ славы русского оружия, побед дореволюционной России и СССР | 12.7 |
| Символ имперской, захватнической политики России | 7.2 |
| Символ "русского мира" | 4.3 |
| ЗО/НО | 7.3 |

Разумеется, георгиевская ленточка — не тот символ, при помощи которого можно противостоять идеологии "русского мира". Но, как видно из предыдущей таблицы, и красно-зеленый флаг может служить этой цели в весьма малой степени.

*www.iiseps.org*

АКЦЫЯ

## Зніжкі толькі для алкаголікаў

*Акцыя па льготным лячэнні людзей, якія пакутуюць на залежнасць ад алкаголю, пройдзе 25 ліпеня ў Мінску.*

У Гарадскім клінічным наркалагічным дыспансеры жадаючым вылечыцца ад алкагалізму дадуць зніжку 50%. Так, падшыўка будзе каштаваць 240 тысяч, а кадзіраванне — 380 тысяч. Метад пазбаўлення ад алкагольнай залежнасці, які можа быць і камбінаваным, выбірае ўрач-нарколаг.

Каб стаць удзельнікам акцыі, неабходна патэлефанаваць з 9.00 да 16.00 па тэлефоне **(017) 292-31-03.** Акрамя таго, людзям, якія жадаюць пазбавіцца ад згубнай звычкі, трэба ўстрымацца ад ужывання алкаголю не менш за 10 дзён да моманту кадзіравання або падшыўкі.

**ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ**

*На ўліку ў наркалагічным дыспансеры стаіць больш за 27 тысяч мінчан з сіндромам залежнасці ад алкаголю.*

ЗАКУЛІССЕ

# «Заўтра хай прыступае»

Кіраўнік Магілёўскага аблвыканкама **Пётр Руднік** па-майстэрску вызваліў пасаду свайго першага намесніка. Такога спосабу вырашэння кадравых пытанняў не могуць прыгадаць нават старажылы дзяржаўнай службы.

Адбылося ўсё ў панядзелак, калі Аляксандр Лукашэнка наведваў Бялыніцкі раён. Як высвятляецца, падчас візіту гаварылі не толькі пра сельскую гаспадарку, але і пра цэментную вытворчасць. Адно з буйнейшых прадпрыемстваў гэтай галіны — Касцюковіцкі цэментны завод — знаходзіцца на Магілёўшчыне. Не сакрэт, што мадэрнізацыя, праведзеная з дапамогай кітайскіх спецыялістаў і кітайскіх грошай, чакаемага станоўчага эфекту не дала. Вытворчасць цэменту ў нашай краіне застаецца праблемай, цэны на яго — неканкурэнтаздольныя. З'яўляліся нават паведамленні, што экспартныя пастаўкі беларускага цэменту проста стратныя для прадпрыемстваў, а па больш высокай цане яго ніхто не хоча купляць.

Пётр Руднік, калі пачалося абмеркаванне гэтай тэмы, прапанаваў рашэнне, якое наўрад ці вырашыць праблему заводаў, затое зробіць вакантным крэсла першага намесніка старшыні аблвыканкама.

Руднік прапанаваў аб'яднаць усе пляцоўкі па вытворчасці цэментнай прадукцыі ў Магілёўскай вобласці пад адным кіраўніцтвам, стварыўшы дзяржаўнае вытворчае аб'яднанне "Беларускі цэментны завод", куды ўвойдуць аднайменнае адкрытае акцыянернае таварыства ў Касцюковічах з філіялам у Клімавічах па вытворчасці вапны і кармавога мелу, а таксама дзве вытворчыя пляцоўкі ў Крычаве. А ў якасці кіраўніка гэтага аб'яднання Пётр Руднік прапанаваў... свайго першага намесніка **Уладзіміра Кісялёва**.

Цікава, што да нядаўняга часу Уладзімір Кісялеў быў вядомы наўздзіў імклівай кар'ерай. Не маючы ніякага досведу ў вытворчасці будматэрыялаў і ўвогуле не маючы адукацыі ў гэтай галіне, ён быў прызначаны гендырэктарам Беларускага цэментнага завода, хаця да таго ўзначальваў аўтапарк. Наступная ступень кар'еры — пасада старшыні Касцюковіцкага райвыканкама: кажуць, падчас наведвання прадпрыемства кіраўніком дзяржавы Кісялёў яму вельмі спадабаўся. Праз два гады (у студзені гэтага года) стаў першым намеснікам старшыні Магілёўскага аблвыканкама. Але не прайшло і паўгода, а непасрэдны начальнік прапанаваў вярнуць Кісялёва туды, адкуль ён пачынаў.



"Добра, заўтра хай прыступае", — прапанова Рудніка была падтрымана Аляксандрам Лукашэнкам.

"Заўтра" ў дадзеным кантэксце азначала аўторак, 8 ліпеня. Аднак на момант здачы гэтага нумара ў друк яшчэ не было ніякіх указаў на гэты конт. На сайце Магілёўскага аблвыканкама Уладзімір Аляксеевіч Кісялеў па-ранейшаму значыцца як першы намеснік старшыні. Але неафіцыйна вядома, што ён папрасіў, каб на новым месцы яго не чапалі хаця б сто дзён і далі разабрацца з тым, на якім свеце апынуўся і ён сам, і завод.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

